*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою.*
***Якуб КОЛАС***

**№ 34 (4286)**

27 красавіка 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ТРАГІЧНАЯ ДАТА

## 26 красавіка 1986 года ў 1 гадзіну 23 хвіліны 58 секунд выбухнуў рэактар Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі

З разбуранага энергаблока на вялікую вышыню вылецелі палаючыя кавалкі, іскры і полымя. Вецер панёс радыяцыю ў бок Беларусі.

На тэрыторыю нашай краіны прыпала 70 працэнтаў усяго радыеактыўнага забруджвання. У эканамічным разліку страты Беларусі складаюць прыкладна 235 мільярдаў долараў ЗША.

Перад аварыяй у рэактары чацвёртага блока знаходзілася 180–190 тон ядзернага паліва. Паводле некаторых ацэнак, у навакольнае асяроддзе было выкінута ад 5 до 30 працэнтаў ад гэтай колькасці.

У момант выбуху загінулі два работнікі станцыі. Больш за 30 чалавек памерлі на працягу першых трох месяцаў пасля аварыі.

Для ліквідацыі наступстваў мабілізавалі больш за 600 тысяч чалавек.

У зоне забруджвання апынуліся каля 2 млн 100 тыс. чалавек (25 працэнтаў беларускага насельніцтва).

У выніку аварыі з сельскагаспадарчага абароту было выведзена каля 5 млн га зямлі.

4 мая 1986 г. беларускае кіраўніцтва прыняло рашэнне аб адсяленні насельніцтва з 30-кіламетровай зоны вакол ЧАЭС, у першую чаргу з Брагінскага, Хойніцкага і Нараўлянскага раёнаў. Гэта забароненая для свабоднага наведвання тэрыторыя, якая найбольш пацярпела пасля катастрофы.

З 30-кіламетровай зоны былі эвакуіраваны больш за 115 тысяч чалавек.

У першыя тыдні пасля аварыі на 4-м блоку Чарнобыльскай атамнай станцыі найбольшую небяспеку для насельніцтва прадстаўлялі кароткачасовыя радыеактыўныя ізатопы, перш за ўсё ёд-131. З цягам часу “Грынпіс” і Міжнародная арганізацыя “Урачы супраць ядзернай вайны” заявілі, што ў выніку аварыі памерлі дзясяткі тысяч чалавек.

Цэзій-137 і стронцый-90 маюць перыяд паўраспаду больш за 30 гадоў.

На забруджанай радыенуклідамі тэрыторыі ў гарадах і пасёлках гарадскога тыпу пражывала 801,3 тыс. чалавек, у тым ліку 149 тыс. дзяцей, у сельскіх населеных пунктах – 341,3 тыс. чалавек, з іх 65,9 тыс. дзяцей.

Тэрыторыямі, найбольш пацярпелымі ў выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, з’яўляюцца Гомельская, Брэсцкая і Магілёўская вобласці.



АКЦЫЯ

## Страчаная памяць?

*Учора вечарам у Мінску прайшоў традыцыйны “Чарнобыльскі Шлях”. Бадай, самы малакалькасны за апошнія гады – у калоне, якая рушыла ад кінатэатра “Кастрычнік” да скрыжавання вуліц Карастаянавай і Арлоўскай, налічвалася ўсяго пару соцень чалавек.*

*Альбо фармат акцыі, які выкарыстоўваўся з канца 1980-х гадоў, вычарпаў сябе, альбо ў беларусаў такая кароткая памяць.*

**Фота Віталя ГАРБУЗАВА.**

ЧУЛІ?

## З 1 мая павялічацца працоўныя пенсіі

*У сярэднім – на 5,4 працэнта.*

Гэта прадугледжана ўказам №142 «Аб павышэнні пенсій», які ўчора падпісаў беларускі кіраўнік.

Паведамляецца, што пераразлік будзе зроблены “*ў сувязі з ростам сярэдняй заработнай платы работнікаў у рэспубліцы*”.

РЭДКАЯ ЗНАХОДКА

## Як амаль 75 гадоў газета «Праўда» захоўвала фашысцкі сцяг і зброю

У Гродне рабочых арганізацыі “Гроднагарбуд” чакала незвычайная знаходка на гарышчы старога дома па вуліцы 1 Мая. У газету “Правда” за кастрычнік 1944 года быў загорнуты чырвоны фашысцкі сцяг са свастыкай, а ў яго – паляўнічая двухстволка ў разабраным выглядзе, пісталет і ажно 125 патронаў.

Са слоў начальніка крымінальнага вышуку мясцовага РАУС Віталя Зезюлевіча, зброя была неадкладна накіравана на экспертызу. Ужо вядомы яе папярэднія вынікі. Двухстволка 16-га калібру, мяркуючы па кляйме, з’яўляецца сапраўдным рарытэтам – была выраблена яшчэ ў XIX стагоддзі ў бельгійскім горадзе Льеж. Што да пісталета, то ён сістэмы Флабера, таксама рэдкі на нашых землях. Ім карыстаўся герой знакамітага рамана Аляксандра Дзюма, таму яго часам называюць “пісталетам графа Монтэ-Крыста”. Ён выраблены да 1935 года ў Германіі. Мяркуючы па даце на “Правде”, арсенал быў кімсьці прыхаваны ўжо пасля вызвалення горада савецкімі войскамі.

БЕЗ РЭТУШЫ



Валерый КАРБАЛЕВІЧ

## Чым чыноўнікі ЖКГ падобны на барона Мюнхгаўзена?

Гэтая інфармацыя звярнула на сябе ўвагу сваёй нечаканасцю і незвычайнасцю. Міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Аляксандр Церахаў на тэлеканале “Беларусь 1” заявіў: “*Калі тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі выраслі, то, вядома ж, паслуга павінна быць якасна аказана. Ёсць розныя механізмы. У цяперашні час ініцыятыва заключаецца ў тым, каб на няякасную паслугу чалавеку прадастаўляць зніжку, якая павінна быць, вядома, істотнай, каб чалавек меў права на пераразлік за няякасна аказаную паслугу... Эксперты ўжо выпрацавалі рашэнне, зараз яно праходзіць стадыю ўзгаднення з зацікаўленымі ведамствамі*”. Паводле слоў міністра, з дапамогай гэтага механізму міністэрства будзе стымуляваць арганізацыі ЖКГ павышаць эфектыўнасць і аказваць якасныя паслугі.

Як можна зразумець з гэтай заявы, гаворка ідзе не пра нейкі адпаведны закон ці прэзідэнцкі ўказ, а толькі пра ведамственную інструкцыю, якой будуць рэгулявацца адносіны арганізацый ЖКГ са спажыўцамі.

Пасля аналізу гэтай інфармацыі адразу ж узнікае пытанне. Па нармальнай логіцы, калі паслуга няякасная, то спажывец не толькі не павінен нічога плаціць, а яму павінны кампенсаваць матэрыяльную і маральную шкоду.

Але калі ЖКГ добраахвотна ідзе насустрач інтарэсам спажыўцоў, то не будзем прыдзірацца. Аднак і тут узнікае цэлы шэраг пытанняў наконт працэдуры практычнай рэалізацыі гэтай ініцыятывы. Уся праблема палягае ў тым, што ў Беларусі жыллёва-камунальныя паслугі аказвае дзяржаўны манапаліст. Прадпрыемствы ЖКГ будуць самі ацэньваць якасць паслуг, якія яны ж і аказваюць. Ніякага незалежнага арбітра ці вонкавага аўдыту не існуе. І вось атрымліваецца, што гэты манапаліст будзе сам сябе штрафаваць, вызначаць зніжкі на няякасную паслугу, быць суддзёй у спрэчках паміж уласным прадпрыемствам і жыхарамі. Тут завязана столькі суб’ектывізму і ведамаснага інтарэсу пры адсутнасці дакладнага механізму рэгулявання, што можна толькі ўявіць, колькі будзе канфліктаў, спрэчак з гэтай нагоды.

Як вядома, галоўная прычына праблем у ЖКГ – гэта манаполія дзяржавы ў згаданай сферы, адсутнасць канкурэнцыі. Таму пастаянна павышаюцца кошты, не павялічваецца якасць паслуг. Між тым сусветны досвед паказвае, што найбольш эфэктыўным спосабам павелічэння якасці і зніжэння коштаў на любыя паслугі з’яўляецца канкурэнцыя.

Паўгода таму, 20 кастрычніка 2017 года, адбыўся рэспубліканскі семінар “Аб удасканаленні і развіцці жыллёва-камунальнай гаспадаркі краіны”. Ён рыхтаваўся чатыры гады. Чакалася, што будзе прынята рашэнне аб радыкальнай рэформе гэтай сферы.

Аднак Аляксандр Лукашэнка адназначна выказаўся супраць рэфармавання ЖКГ. “Вы не спяшайцеся разбураць цяпер дзеючую структуру ва ўгоду нейкім сумніўным кампаніям і мерапрыемствам”, – папярэдзіў кіраўнік дзяржавы. Лукашэнка нібыта і не супраць дапусціць у гэтую сферу прыватны бізнес, аднак тут жа заяўляе: “*Але вы ведаеце, што любы прыватнік, прыйшоўшы ў гэтую сферу, будзе глядзець перш за ўсё ў сваю кішэню: як даражэй узяць, што недарабіць, што не зрабіць, дзе няякасна абысці, а грошы ў кішэню пакласці*”. І робіць выснову: структура ЖКГ “*павінна быць адзіная і кіраваная*”. Узнікае пытанне: а хіба дзяржаўныя прадпрыемствы ЖКГ не глядзяць найперш у сваю кішэню?

І яшчэ важная заўвага. Праблемы ў камунальнай гаспадарцы нарастаюць, патрэбна ўсё больш рэсурсаў для фінансавання гэтай сферы, а грошай у бюджэце няма. Але вырашэнне гэтых складаных пытанняў перакладаецца на мясцовую ўладу. “*Шукайце крыніцы фінансавання і дзейнічайце*”, – такую параду даў Лукашэнка чыноўнікам. Карацей, грошай няма, але вы трымайцеся.

Шмат разоў Аляксандр Лукашэнка на розных нарадах казаў пра непразрыстасць камунальных тарыфаў і гнеўна запытваў: дайце мне нарэшце рэальную калькуляцыю кошту тых ці іншых паслуг. І вось на тым семінары высветлілася, што за шмат гадоў камунальшчыкі так і не змаглі зрабіць элементарную рэч: палічыць, колькі рэальна каштуюць паслугі ЖКГ. Чатыры гады рыхтавалася гэтае мерапрыемства, была створана адмысловая група. І ў выніку Лукашэнка падчас выступлення на семінары кажа: “*Мы палічым спачатку тарыфы дакладна, каб энергетыкі, тыя, хто ваду падае, не жыравалі і не вырашалі свае праблемы за кошт насельніцтва. І тады прымем рашэнне, калі будзем выходзіць і як будзем выходзіць на стопрацэнтную аплату. Я перакананы: калі мы вельмі дакладна палічым, ужо з трэцяга заходу, гэтыя тарыфы, то працэнт кампенсацыі будзе вельмі высокі. Можа быць, і 90 працэнтаў*”.

Дык можа, спачатку варта было б палічыць і толькі потым выстаўляць рахункі насельніцтву? І калі ведамства нават на пагрозлівы запыт прэзідэнта аказалася няздольнае проста падлічыць рэальны кошт камунальных паслуг, дык пра што можна казаць?

Вяртаючыся да згаданай ініцыятывы міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі Аляксандра Церахава, варта задумацца: ці насамрэч ведамства выявіцца здольным на самаахвярнасць, зможа само сябе штрафаваць? Але ці можна падняць самога сябе за валасы? Гэта ўдавалася толькі барону Мюнхгаўзену.

БЛИЦ

*В Послании белорусскому народу и парламенту Александр Лукашенко сказал: «Наша задача – быть открытыми для лучшего. Цель – расти быстрее, чем другие, и таким образом сокращать отставание от развитых стран. В этом залог качественных изменений, которые нам нужны и которые позволят поднимать уровень благосостояния граждан Беларуси относительно другого мира».*

*Слов нет, посыл очень и очень актуален. Но… Вопрос открыт:*

## Как догнать Европу?

**Оксана НАРАНОВИЧ, декан инженерного факультета Барановичского государственного университета:**

– Самое главное – повышать уровень образования.

**Георгий ГРИЦ, заместитель председателя РОО «Белорусская научно-промышленная ассоциация» по инвестиционной и инновационной политике:**

– Мне кажется, нужно вообще определиться, что мы хотим построить. Государственную экономику, частную. Но ведь это не просто самоцель – сделать предприятия частными, мы исходим из того, что частник должен быть эффективным. И тут снова вопрос: может ли эффективный предприниматель стать собственником МАЗа? Наша экономика должна интегрироваться в Европу или ориентироваться на Российскую Федерацию? То, что мы хотим со всеми дружить, – вряд ли это поможет развиваться нашей экономике.

Второй вопрос – что сегодня является визитной карточкой нашей страны? Машиностроение, IT-отрасль, сельское хозяйство?

И третий момент – на кого надеяться? На себя или на дядю? То есть приходит иностранный инвестор и учит нас уму-разуму или все-таки должны быть местные топ-менеджеры? Если мы ориентируемся на своих топ-менеджеров и не хотим, чтобы они воровали, то нужно менять систему мотивировки, отказываться от коэффициента соотношения средней заработной платы руководителя и средней заработной платы по предприятию. Это какая-то социалистическая уравниловка! Топ-менеджер должен получать действительно достойную зарплату. И пока мы вот такие ключевые моменты не определим, наверное, будем методом тыка все делать. Вот только два примера из выступления президента. Один пример по атомной электростанции – он вообще знакомый! Оказывается, строим-строим, а куда девать энергию будем – не ясно. И ведь проект всегда был на слуху! То же самое по промышленной политике. Где стратегия развития промышленности, где министерство промышленной политики? Поэтому, видимо, настал момент выяснить, как говорили белорусские классики, кто мы такие и куда мы идем…

**Светлана ГОЛЬДАДЕ, председатель Гомельского горисполкома в 1991–1994 годах:**

– Изменить политическую систему в стране. Сегодня все замыкается на одном человеке. И никакие здравые идеи без его одобрения не смогут быть реализованы. Один человек не в состоянии отслеживать ситуацию по всем направлениям.

**Антон БОЛТОЧКО, эксперт по экономике «Либерального клуба»:**

– Тут двумя предложениями и не скажешь – по-хорошему, нужна развернутая программа конкретных действий! Например, если смотреть на поставленную задачу с позиции конкурентоспособности Беларуси по сравнению с другими странами, для быстрого экономического роста нам необходимо решить структурные вопросы, связанные с распределением ресурсов в экономике. По сути, нужно пересмотреть и многие государственные программы, многие из которых являются малоэффективными.

Необходимо также максимально развивать частный сектор экономики. Нужна системная работа, направленная на то, чтобы количество предпринимателей, иностранных инвесторов становилось в Беларуси больше.

**Тамара СИДОРЕНКО, адвокат:**

– Это, конечно, вопрос больше экономисту. Но как обывателю мне кажется, что нужно внедрять новые технологии, не ограничивать предпринимательство – наоборот, дать полную свободу! Нужно четко исполнять законодательство – жизнь показывает, что нарушений много во всех сферах. Опять же – борьба с коррупцией и нечистыми на руку чиновниками. Понятно, что с таким балластом мы далеко вперед не уйдем – это гири на наших ногах…

**Марина КОКТЫШ.**

ОСТРЫЙ ВЗГЛЯД

# Ненужная «лампочка Ильича»?

Примерно 10 лет прошло с тех пор, как в высших эшелонах власти практически был решен вопрос о строительстве атомной станции. Но вот парадокс... На днях, выступая с Посланием к народу и парламенту, президент А.Г.Лукашенко заявил: «*Работают сотни ученых, тысячи специалистов в системе Минэнерго, Минстройархитектуры, а мне до сих пор внятно никто не доложил, как станция будет встроена в экономику страны*».

То есть как это – не доложили? Государство взяло у России кредит в размере 10 миллиардов долларов США на строительство объекта, в целесообразности функционирования которого возникают сегодня сомнения? А кто вообще должен был за это отвечать – тот, кто докладывал?

По должности докладывать должны были как минимум два человека. Первый – вице-премьер, курирующий в правительстве энергетику и промышленность; этот пост до сих пор занимает Владимир Семашко. Второй – сам премьер, каковым тогда являлся доктор экономических наук Михаил Мясникович. Оба, как говорится, в пределах досягаемости – доверенных людей с автоматами в руках, о которых также повествовалось в увлекательнейшем президентском послании, никуда направлять не нужно. В чем проблема-то? Они докладывали неправильно – или непонятно? Во втором случае вопрос в квалификации слушавшего их лица, так и не понявшего, о чем ему толкуют эти почтенные профессионалы. В первом случае речь, похоже, должна идти либо об их собственной некомпетентности, либо о вредительстве и лоббировании сторонних интересов. В чем дело?

Я задаюсь этим вопросом вовсе не потому, что испытываю какие-либо злобные чувства по отношению к двум высокопоставленным чиновникам и высоко поставившему их президенту. Просто – интересно. Вот, скажем, сейчас Министерство энергетики поправило (!!!) Александра Григорьевича, заявив: мол, все в порядке, сами же произведенную на АЭС электроэнергию и потребим. Помнится, еще некоторое время назад речь шла о том, как много мы ее продадим на сторону – в ту же Литву. И версия о том, что электроэнергия – она как яблочко наливное: что не съедим, то понадкусываем, – появилась, похоже, как раз после того, как Литва категорически отказалась эту самую электроэнергию потреблять и даже предоставлять транзит для ее дальнейшей транспортировки.

Я не говорю о собственной компетентности в вопросах энергоснабжения, но уж в том, что читать я умею, сомнений быть не должно. И читать, и догадываться, из какой части государственного организма эти «ноги» растут. Если объект изначально производился для экспорта электроэнергии, то, значит, предусматривалась ее избыточность по отношению к белорусской экономике. А если она избыточна, эта самая энергия, то не захлебнется ли ею наша энергетическая система? Построить и отрапортовать – это одно дело, а смотреть, как вдрызг разнесет никому, как выясняется, особо не нужную «лампочку Владимира Ильича Семашко», – совсем другое. «Лампочку», за которую при этом платить будут многие поколения белорусских граждан, в том числе и я сам.

Я понимаю, что Владимир Ильич может прислать опровержение. Но тогда хотелось бы, чтобы он опроверг и слова главы белорусского государства, приведенные мною выше. Ибо процитировал я президента Лукашенко предельно точно, так что спорить господин вице-премьер в этом случае будет не со мной, а с Александром Григорьевичем.

И еще один вопрос. У нас тут, говорит все тот же хорошо информированный источник (ну как это «кто»? Президент, кто же еще!), намедни раскрыта сеть, получавшая откаты за поставку спецодежды для государственных предприятий. Масштаб явно не тот. Под АЭС был взят кредит в 10 миллиардов долларов. При этом, как утверждает Александр Лукашенко, обоснование проекта явно было недостаточным – по крайней мере это вытекает из его слов. На двадцать четвертом году президентуры я не могу сомневаться в ущербности его компетентности как руководителя высшего звена. Если можно, расскажите мне, кто и как подписывал документы на получение самого большого кредита в истории Беларуси, если главе государства не смогли объяснить, как объект, построенный на эти деньги, будет встроен в экономику страны. То есть – за счет чего мы эти деньги возвращать будем. Или надеялись, что возвращать будет кто-то другой? Но тогда это называется просто – «кидалово».

**Сергей ГОРДИЕНКО.**

АКЦИЯ



# Александр ЯРОШУК: «Все на первомайский митинг!»

*Белорусскому конгрессу демократических профсоюзов Мингорисполком разрешил проведение 1 Мая митинга в Киевском сквере.*

– Мы заявляли митинг не для того, чтобы отпраздновать государственный праздник День труда, а чтобы отметить Международный день солидарности трудящихся, – *объясняет председатель БКДП* ***Александр Ярошук***. – Этот день выстрадан рабочими многих стран, щедро полит их кровью, и мы считаем кощунством превращать его в государственный праздник, как это сделано в Беларуси. В этот день мы намерены заявить о своих требованиях к властям немедленно изменить социально-экономическую политику, обрекшую многих наших сограждан на бедность и нищенское существование, принять неотложные меры по повышению доходов, заработных плат и пенсий граждан.

Мы потребуем прекращения нарушений прав трудящихся и профсоюзов, легших позорным пятном на нашу страну, немедленной отмены декрета №29 о переводе всех занятых в экономике на срочные трудовые контракты, декрета №5, которым узаконена система необоснованных и чрезмерных наказаний работников, декрета №1, которым вводится принудительный труд в стране. Мы считаем эти декреты унижающими честь и оскорбляющими достоинство человека и потребуем от властей отказаться от всяких попыток превращения работников в рабов, ввергнуть страну в мрачные времена средневековья.

Мы призываем всех, кто не может оставаться равнодушным и не желает мириться с нарушениями прав трудящихся, с последовательной деградацией социально-трудовых отношений в стране, присоединиться к нам и поддержать наши требования. Только вместе мы сможем обеспечить достойную жизнь, достойный труд, достойные его условия и достойную оплату, будущее для наших детей и внуков. Мы ждем вас, друзья, 1 мая, в Международный день солидарности трудящихся, в 14 часов в Киевском сквере.

Все на первомайский митинг! Вместе мы победим!

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

ЭКСПРЭС-КАМЕНТАРЫЙ

# Ці паспрыяюць сілавікі эканамічнаму росту?

*Палітолаг і прадстаўнік бізнесу пракаментавалі “Народнай Волі” зварот беларускага кіраўніка да сілавых структур.*

Нагадаем, што ў сваім Пасланні народу і парламенту Аляксандр Лукашэнка сказаў так: *“Звяртаюся да праваахоўнага блока, судовай улады: вы павінны забяспечваць вяршэнства закона. Але без урону для эканамічнага росту”.*

*“Фармальна гэтыя словы можна лічыць заклікам да суддзяў і сілавых структур не ставіць палкі ў колы бізнесу*, – кажа сустаршыня Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва **Віктар МАРГЕЛАЎ**. – *Іншая справа, што словы – гэта словы, а на практыцы можа быць па-іншаму. Зараз мы працуем над зменамі ва Указ №488 аб ілжэпрадпрымальніцтве, і галоўнае, што неабходна ўзаконіць, – каб невінаватыя не даказвалі сваю невінаватасць. Хаця, трэба шчыра сказаць, у апошні час бізнесу стала прасцей працаваць, бо зараз ужо не тая пільная ўвага з боку кантралюючых органаў, што была раней. Праверак стала менш, скарочаны некаторыя патрабаванні, і гэты працэс можна назваць станоўчым”.*



Палітолаг **Дзяніс МЕЛЬЯНЦОЎ** лічыць, што ў дадзеным выпадку на праблему трэба глядзець шырэй.

*“Мне падаецца, што тут важна звяртаць увагу не толькі на пытанне праверак бізнес-структур*, – лічыць эксперт. – *Эканамічны ўрон краіна можа панесці і ад фарміравання дрэннага іміджу. У нас ёсць гандлёвыя інтарэсы ў Еўропе і ЗША, але нярэдка яны бываюць “завязаны” на палітычныя пытанні. А тое ж самае пытанне вяртання санкцый наўпрост залежыць у тым ліку і ад дзеянняў беларускага сілавога блока. Разагналі мірную дэманстрацыю – з’явіліся палітычныя патрабаванні з боку Захаду, а значыць, тэарэтычна ўзнікае пагроза новых санкцый. Альбо, напрыклад, адправілі за краты вядомага IT-бізнесмена быццам бы за эканамічныя злачынствы, і ўжо гэта можа адштурхнуць знешніх інвестараў. У выніку беларуская эканоміка не атрымае дадатковых інвестыцый і паступленняў у бюджэт. Таму сілавікам, як мне падаецца, і загадана ўлічваць усе гэтыя моманты, якія прадыктаваны сучаснай палітычнай сітуацыяй”.*



**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

100 РАДКОЎ



Міхася СКОБЛЫ

# Навошта Віцебску чужая княгіня Вольга?

У народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі ёсць сумны верш пра тое, як найвядомейшы ў свеце віцябчанін Марк Шагал меў намер падараваць роднаму гораду некалькі дзясяткаў сваіх карцін. Тых, на якіх пазнаецца дарэвалюцыйны Віцебск – з цэрквамі, касцёламі і сінагогамі, з драўлянымі хацінамі, над якімі лётаюць закаханыя.

Тагачаснае віцебскае начальства адмовілася ад падарунка. “Шагал пакрыўдзіўся і памёр, а Віцебск страціў мільёны турыстаў”, – канстатаваў Пімен Емяльянавіч, яўна спачуваючы і пакрыўджанаму Марку Захаравічу, і землякам-віцябчанам, у якіх, трэба думаць, ніхто не пытаўся, патрэбна гораду карцінная галерэя славутага мастака-авангардыста ці не.

Наўрад ці сённяшняе кіраўніцтва Віцебска кусае локці, прыгадваючы пралікі сваіх папярэднікаў, – занадта даўно тое было. Але вучыцца на памылках ніколі не позна. І вырашылі ў Віцебску ставіць помнікі. Няважна каму – абы прыцягальныя для турыстаў. Так ні з пушчы ні з поля з’явіўся ў горадзе над Дзвіной “старик Хоттабыч”, а наўслед за ім – пад апладысменты адэптаў “русского мира” – Аляксандр Неўскі. Адзін выскачыў з папулярнай дзіцячай кніжкі, другі вылез з падручніка па гісторыі суседняй дзяржавы, і абодва ў Віцебску атрымалі прапіску. Гараджане тады трохі папратэставалі, але ўрэшце змірыліся.

Відаць, прытоку турыстаў Хатабыч з Неўскім паспрыялі мала, таму ў Віцебскім гарвыканкаме вырашылі ўсталяваць яшчэ адзін “прывабны для турыстаў” помнік – старажытнарускай княгіні Вользе. Падаючы яе як заснавальніцу горада. У сувязі з чым я хацеў бы задаць некалькі пытанняў віцебскаму мэру **Віктару Нікалайкіну**.

Лічыцца, што Віцебск заснаваны ў 974 годзе. А княгіня Вольга, як паведамляе летапісная “Аповесць мінулых гадоў”, памерла ў 968-м. Выходзіць, праз шэсць гадоў уваскрэсла, каб заснаваць Віцебск?

Прыкра пра гэта гаварыць, але, каб падагнаць даты пад загадзя прыдуманую схему, савецкія гісторыкі ў свой час пайшлі фактычна на фальсіфікат, “падправіўшы” летапіс, а заадно і заклеймаваўшы віцебскага летапісца, які, няйначай з пахмелля, пераблытаў лічбы і напісаў *974* замест *947*. Вам, спадар Нікалайкін, відаць, знаёмая тая прыдумка Б.Рыбакова і Л.Аляксеева? А ці чыталі вы, што напісаў з нагоды “папраўленага летапісу” найлепшы знаўца беларускіх старажытных пісьмёнаў Мікалай Улашчык? Бо ён і ў новай даце знайшоў супярэчнасць. У летапісе паведамляецца, што княгіня Вольга, заснаваўшы горад, пабудавала ў ім адразу дзве царквы – Святога Міхала і Звеставання. “Але, – слушна засумняваўся гісторык, – у 947 годзе Вольга яшчэ не была хрысціянкай, а значыць, не магла ўзводзіць цэрквы”.

Так што ні ў 947-м, ні ў 974 годзе княгіня Вольга заснаваць Віцебск не магла. Дык каму вы, спадар Нікалайкін, сабраліся ставіць помнік?

Праславілася княгіня зусім іншымі справамі. Як паведамляе тая ж “Аповесць мінулых гадоў” (ці яе таксама пісалі з пахмелля?), Вольга, помсцячы за смерць свайго мужа, загадала закапаць жыўцом дваццаць паслоў-драўлян, а прыбыўшы на драўлянскія землі, здзейсніла падчас трызны па мужу рытуальнае забойства 5000 чалавек. Аднак і на гэтым крыважэрная княгіня не супакоілася і наступную партыю паслоў распарадзілася спаліць у лазні. Што і было зроблена. У рускага паэта Мікалая Гумілёва ёсць пра гэта кранальныя радкі: *“Ольга, Ольга! – вопили древляне / С волосами жёлтыми, как мёд, / Выцарапывая в раскалённой бане / Окровавленными ногтями ход”.*

Драўляне, спадар Нікалайкін, не на Марсе жылі, а ў сутоку Прыпяці і Гарыні, гэта нашы з вамі продкі. А вы не баіцеся, што іх перадсмяротныя крыкі загучаць і над Дзвіной, калі там паўстане помнік іх згубіцельніцы?

У падтрымку “заснавальніцы Віцебска” Вольгі нядаўна выступіла “Советская Белоруссия”. Яе калумністка Вікторыя Папова іранічна прайшлася па віцебскіх актывістах, што збіраюць подпісы супраць помніка, і паратавала за “ещё один красивый памятник, у которого будут тусоваться туристы”. Ідэальнай ёй бачыцца “талерантная эклектыка”, падгледжаная ў Магілёве, дзе помнік цару Мікалаю II суседнічае з мемарыялам змагарам за савецкую ўладу.

Паводле логікі журналісткі “Советской Белоруссии”, на вуліцах беларускіх гарадоў помнікі трэба ўсталёўваць пáрамі – Каліноўскаму і Мураўёву, Касцюшку і Сувораву, БНР і БССР… Але гэта будзе ўжо не эклектыка, а самая сапраўдная палата №6. Дарэчы, у Віцебску падобная “палата” ўжо існуе – на гарадскіх вуліцах, дзесяць з якіх носяць імя Надзеі Крупскай, пяць – Якава Свярдлова, тры –Аўгуста Бебеля і г.д. Тамсама дзіўным чынам размножыліся вуліцы Сацыялістычныя, Кастрычніцкія і Клінічныя…

Усталяваны нахрапам і чужародны Віцебску помнік вернаму хаўрусніку Залатой Арды Аляксандру Неўскаму па прыблізных падліках абышоўся гарадскому бюджэту пад 300.000 рублёў. Відаць, не менш запатрабуе і помнік псеўдазаснавальніцы горада княгіні Вользе.

А ці не лепш было б прадугледжаныя на той сумнеўны з усіх бакоў манумент грошы патраціць на перайменаванне віцебскіх вуліц, што крычма крычаць пра ўчыненую над імі экзекуцыю? На шыльдачкі з імёнамі знакамітых сыноў Віцебшчыны Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна і Генадзя Бураўкіна.

Помнікі княгіні Вользе ўжо стаяць у Кіеве, Пскове і Ноўгарадзе, у яе гонар названа затока ў Ахоцкім моры, пасёлак у Прыморскім краі і ордэн РПЦ.

Слаўны горад Віцебск, спадар Нікалайкін, без тае Вольгі выдатна абыдзецца. Помнікі ўсё ж трэба ставіць сваім героям.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Бог с ним, с государством этим!

Украинское руководство обратилось к вселенским патриархам с просьбой признать факт существования украинской автокефальной церкви, независимой от Украинской православной церкви Московского Патриархата. Радости по поводу самого факта обращения было много – причем не только в Украине, но и в определенных белорусских кругах.

Я, правда, радоваться не спешил бы. От того, что во вполне светском государстве появится церковь, инициатором создания которой государство и было, ничего хорошего не будет. Будет как с коммунистической идеологией. До тех пор, пока хотя бы внутри самой коммунистической партии были какие-то разногласия, шла, как говорит современная молодежь, «движуха», то и жизнь была. Да, это была жизнь хищника, пожиравшего все на своем пути. А как стала она единственной «руководящей и направляющей», то и отравоядилась, а потом и вовсе приказала всем долго жить.

Создание «единственной правильной» церкви неизбежно приведет к переформатированию всего поля религиозной жизни. Чего греха таить, есть у нас искренне (иногда – истово) верующие, а есть конъюнктурщики, которым дай подержаться за свечку в руках вышестоящего начальства – ну как бревнышко с Лениным поносить или травку с Лукашенко выкосить на субботнике. Концепция «церковь для государства» в их устах или под их диктовку выглядит как «церковь для нас». Соответственно и религиозная жизнь в огосударствленной конфессии подменяется застоем, и священник превращается в чиновника, испытывающего перед начальством страх больший, нежели перед Богом.

Правда, близость к государству дает определенные привилегии самой церкви. Помню, как в первые месяцы президентуры Александра Лукашенко тогдашний начальник Службы контроля президента Василий Долголев «накатил» на белорусский экзархат РПЦ – а вернее, на некое предприятие «Диакония», зарабатывавшее на церковные нужды за счет льготной продажи спиртного (ну, это помимо всего прочего). Деньги, конечно, водочным перегаром не пахнут, однако логика в действиях Василия Борисовича была: вы, святые отцы, либо, согласно Евангелию, изгоните торгующих (водкой по крайней мере) из храма, либо тогда платите налоги, как все. Тот конфликт был очень быстро исчерпан, а на церковные нужды зарабатывать начали на другом. Да и богатые люди, поняв, что государство относится к спонсированию РПЦ вполне положительно, начали жертвовать сами, точно надеясь, что молитва от СИЗО убережет. Правда, опыт показал, что уберегает она не всегда и не всех, но… В общем, сами понимаете.

Как ни странно, легкий холодок, по мнению некоторых журналистов, пробежавший между главой белорусского государства и главой белорусского православия, мною лично ощущается как нечто освежающее. Огосударствленная церковь не может полноценно ни милость к падшим призывать, ни критиковать действия власти с позиций вечных истин. А ведь именно это одна из ее функций. Нужно молиться и за весь народ, и за власти предержащие, но нельзя молиться за царя Ирода. Не может для церкви любое слово власти быть выше того, что записано в Святом Писании. А Писание, как ни толкуй, к милосердию призывает и признает право отнять жизнь у человека только за Богом. И тот факт, например, что в Беларуси до сих пор не отменена смертная казнь, для меня лично является знаком того, что государство намекнуло церкви: ну не просите вы нас об ее отмене! И церковь, мягко говоря, не стала усердствовать.

Именно сейчас, как мне кажется, чем меньше государство вмешивается в жизнь религиозных общин, тем лучше. Не берусь обсуждать ситуацию в Украине – Бог с ней, с Украиной! Но у нас – это точно. Как и церквям (всем, не только православной) не следует вмешиваться в процесс государственного управления. Бог с ним, с государством! Единственное, где вмешательство церкви действительно необходимо, – это в вопросах гражданского мира. Помню, как во время противостояния на киевском Майдане представители крупнейших конфессий Украины совместно молились за мир. Как в киевских храмах, когда началась стрельба, открылись госпитали. И смотрю сейчас на поведение ряда армянских священников, которые встали во главе колонны митингующих в надежде, что это поможет избежать стрельбы в Ереване. Такая позиция достойна уважения. Но и на нее способна лишь независимая от государства – не от закона, подчеркиваю, а именно от государства – церковь.

ДУХОЎНЫ СКАРБ

# Выстава буквароў на 587 мовах

*Каля 1400 букварoў на 587 мовах прадстаўлены на міжнароднай выставе “Буквары народаў свету”, якая адкрылася 26 красавіка ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.*

Выстава прымеркавана да знамянальнай даты – 400-годдзя выдання першага ў свеце буквара, што пабачыў свет у мястэчку Еўе пад Вільняй, якая тады была сталіцай Вялікага Княства Літоўскага.

Аснову экспазіцыі склала ўнікальная прыватная калекцыя букварoў і азбук латвійскага педагога, асветніка і калекцыянера Юрыса Цыбульса, у якой налічваецца звыш 10.000 выданняў больш як на тысячы моў.

Асаблівае месца на выставе займаюць беларускія кнігі для навучання грамаце XVI–XXI стагоддзяў з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, якія наглядна дэманструюць 400-гадовую гісторыю беларускага буквара.

Выстава будзе працаваць да верасня.

**Маргарыта КРАЎЦОВА**

ПАМЯЦЬ

# 29 красавіка адкрыюць помнік на магіле Паўла Шарамета




Цырымонія адбудзецца а 15 гадзіне на Паўночных могілках сталіцы, дзе пахаваны выдатны беларускі журналіст. У цырымоніі возьмуць удзел калегі Паўла – сябры Беларускай асацыяцыі журналістаў, родныя Паўла – яго маці Людміла Станіславаўна Шарамет, з Масквы прыедуць жонка Наталля і дзеці – Елізавета і Мікалай.

Павел Шарамет загінуў 20 ліпеня 2016 года ў выніку выбуху аўтамашыны ў цэнтры Кіева, дзе ён жыў і працаваў апошнія пяць гадоў. Абставіны яго смерці да гэтага часу не расследаваны. 13 красавіка гэтага года намеснік старшыні Савета бяспекі Украіны Віктар Кананенка паведаміў, што доказнай базы па справе аб забойстве Шарамета няма, працэс збору доказаў працягваецца.

Паўлу Шарамету было 46 гадоў.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ЧУЛІ?

# Місія МВФ зноў будзе працаваць у Беларусі

*«Місія Міжнароднага валютнага фонду будзе ў нас на пачатку ліпеня. Гэта планавая місія. Яшчэ адна місія фонду запланавана на восень бягучага года»,* – паведаміў намеснік старшыні праўлення Нацбанка **Дзмітрый Калечыц**.

Паводле яго слоў, супрацоўніцтва з Міжнародным валютным фондам па маніторынгу сітуацыі ў эканоміцы, а таксама ў рамках тэхнічных кансультацый не спыняецца. Беларуская дэлегацыя ўдзельнічала ў вясновай сесіі савета кіраўнікоў Міжнароднага валютнага фонду і Групы Сусветнага банка ў Вашынгтоне 18–23 красавіка.

Незалежныя беларускія эканамісты тлумачаць паўзу ў перамовах з МВФ па новай крэдытнай праграме тым, што ўлады Беларусі пакуль не гатовы рэалізаваць прапановы фонду па глыбокім рэфармаванні сектара дзяржпрадпрыемстваў.

Як вядома, МВФ заклікае ўлады Беларусі паскорыць структурныя рэформы ў эканоміцы.

СІТУАЦЫЯ

# Хто ў пралёце?

*У суседніх краінах авіябілеты па-ранейшаму значна таннейшыя, чым у Беларусі.*



У сваім пасланні народу і парламенту Аляксандр Лукашэнка запытаўся: *«Чаму нашым грамадзянам больш выгадна лятаць адкуль заўгодна – з Вільнюса, Кіева, Варшавы, але не з Мінска?»*

Ні для кога не сакрэт, што многія беларусы падчас падарожжаў і насамрэч аддаюць перавагу аэрапортам суседніх краін, бо кошты на білеты там значна таннейшыя, чым у "Белавія". Часам беларуская кампанія таксама прадае танныя квіткі на рэйсы, але гэта больш выключэнне, чым правіла.

А вось у тых жа Літве, Украіне альбо Польшчы працуе шэраг лаўкостараў – авіякампаній, якія прапануюць палёты па мінімальных цэнах, але без бальшасці дадатковых паслуг для пасажыраў, з вельмі абмежаваным аб'ёмам багажу, нярэдка ў нязручны час або ў далёкія ад папулярных гарадоў аэрапорты. Хацелі прыйсці лаўкост-кампаніі і на беларускі рынак, але ім адмовілі.

*"Мадэль лаўкостаў, калі бясплатна можна правезці на борце толькі ручную паклажу, а багаж і любое харчаванне трэба купляць дадаткова, не ўпісваецца ў нашы стандарты,* – заявіў не так даўно генеральны дырэктар Нацыянальнага аэрапорта Мінск **Дзмітрый Мелікян**. – *І не трэба людзей мучыць, не трэба рабіць з іх нейкіх ізгояў. Я лічу, што наш народ павінен атрымліваць высакаякасную паслугу".*

Тым не менш не ўсім па кішэні гэтая самая "высакаякасная паслуга". Ды і навошта пераплачваць, калі можна знайсці больш танныя варыянты? Напрыклад, пералёт Вільнюс–Кутаісі–Вільнюс (13 мая – туды, 16 мая – назад) каштуе ўсяго каля 47 еўра, Вільнюс–Лісабон – 25 еўра, Варшава-Будапешт-Варшава – 28 еўра…

Мы параўналі акцыйныя квіткі кампаніі Ryanair (з вылетам з Вільнюса) з сярэднімі коштамі на авіябілеты кампаніі "Белавія" ў гэты ж дзень з Нацыянальнага аэрапорта Мінск. Як кажуць, адчуйце розніцу…

**Кошты на авіяпералёты з аэрапортаў Мінска і Вільнюса**

| Пункт прызначэння | Кошт (у еўра) | |
|---|---|---|
| | Нацыянальны аэрапорт Мінск | Міжнародны аэрапорт Вільнюс |
| Лондан (24 мая) | 155 | 15 |
| Брусель (15 мая) | 155 | 17 |
| Парыж (20 чэрвеня) | 176 | 20 |
| Кёльн (27 чэрвеня) | 231 | 20 |
| Талін (6 жніўня) | 75 | 28 |
| Стакгольм (25 мая) | 113 | 31 |
| Осла (14 чэрвеня) | 127 | 31 |
| Варшава (8 жніўня) | 75 | 31 |
| Берлін (20 ліпеня) | 135 | 40 |
| Рым (21 мая) | 148 | 46 |
| Мілан (15 мая) | 154 | 48 |

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

ДЫПКУР'ЕР

# Новы спецдакладчык ПАСЕ па Беларусі можа быць прызначаны ў чэрвені

*Пра гэта паведаміў італьянскі дэпутат Андрэа Рыгоні 25 красавіка на пасяджэнні Камітэта па палітычных пытаннях і дэмакратыі ПАСЕ ў Страсбургу.*

Рыгоні, які ў чэрвені мінулага года прадставіў сваю справаздачу па сітуацыі ў Беларусі, з'яўляецца ўжо былым спецдакладчыкам па сітуацыі ў Беларусі і да 27 чэрвеня 2018 года можа ўдзельнічаць у абмеркаванні далейшых крокаў ПАСЕ ў адносінах з Беларуссю.

У сваім выступленні ён адзначыў, што Беларусь застаецца адзінай краінай у Еўропе, якая ўсё яшчэ не з'яўляецца членам Савета Еўропы. *«І кожны раз, калі мы ўспамінаем пра Беларусь, гэта важна,* – сказаў Рыгоні. – *Гэта не азначае, што не існуе сёння ўмоў для вяртання Беларусі ў еўрапейскую сям'ю, але нам важна ведаць, што адбываецца ў гэтай краіне. У нас могуць быць розныя меркаванні, але, на шчасце, у нас ёсць магчымасць для дыялогу і абмеркаванняў».*

Рыгоні спадзяваўся, што будзе дасягнуты больш прагрэс у адносінах з Беларуссю за той час, пакуль ён з'яўляўся спецдакладчыкам. Аднак, паводле яго слоў, у Беларусі так і не правялі рэформу выбарчага заканадаўства, не ўвялі мараторый на смяротнае пакаранне і не пачалі паважаць фундаментальныя правы, у тым ліку права на свабоду прэсы і свабоду выказвання.

*«Але неабходна працягваць нашу працу, уплываць на Беларусь, каб яна пачала рабіць крокі наперад, пачала рэформы. Гэта наша місія,* – сказаў Рыгоні. – *Як і ў іншых краінах, перамены выклікаюць страх, але гэта цана рэформаў, змены прынясуць карысць».*

У прэс-службе ПАСЕ ўдакладнілі, што Камітэт па палітычных пытаннях пакуль не прыняў рашэння ні па кандыдатуры новага дакладчыка, ні па даце новага прызначэння.

**Таццяна КАРАВЯНКОВА, БелаПАН.**

ЕСТЬ ВОПРОС!

# Как работают белорусские компании в Венесуэле?

*В октябре прошлого года Беларусь посетил президент Венесуэлы Николас Мадуро. С этим визитом связывались большие надежды на преодоление кризиса в торгово-экономических отношениях между нашими странами, особенно в части реализации двусторонних совместных проектов. Александр Лукашенко заявил о "перезагрузке отношений", с высоких трибун звучало, что Беларусь и Венесуэла намерены значительно нарастить сотрудничество. Оправдались ли эти ожидания?*



**На заводе по сборке белорусской техники в промышленной зоне «Санта-Инес», открытом в штате Баринас в 2015 году, планировалось наладить стабильный выпуск дорожно-строительных машин «Амкодора».**

*ДЛЯ СПРАВКИ. Сегодня в Венесуэле действуют СП «МАЗВЕН» по сборке грузовой техники марки «МАЗ», СП «ВенеМинск Тракторес» по сборке тракторов «Беларус». Продолжает работать одно из первых белорусско-венесуэльских СП – «Петролера БелоВенесолана», специализирующееся на добыче нефти и газа, а также на венесуэльском рынке остается строительная компания «Белзарубежстрой», которая участвует в объявленной еще во времена Уго Чавеса национальной программе строительства жилья для малоимущих венесуэльских семей.*

## Многомиллионные долги

Недавно МИД Беларуси сообщил о встрече посла нашей страны в Венесуэле **Олега Паферова** с вице-президентом по вопросам планирования этой страны, сопредседателем Белорусско-Венесуэльской совместной комиссии по торгово-экономическому сотрудничеству **Рикардо Менендесом**. *«Обсуждены вопросы двусторонней промышленной кооперации, реализации совместных проектов, а также имплементации соглашения об отгрузках в Беларусь венесуэльской продукции на условиях встречных поставок»,* – говорилось в сообщении МИД.

Иными словами, речь снова, как и во время визита Николаса Мадуро в Минск, шла о том, как решать возникшие пару лет назад проблемы в торгово-экономическом сотрудничестве. Не секрет, что в прошлом году поставки белорусских комплектующих в Венесуэлу были приостановлены из-за огромных долгов венесуэльской стороны нашим предприятиям.

Например, венесуэльская пресса писала, что еще в 2015 году задолженность СП «МАЗВЕН» перед МАЗом составляла более 65 млн долларов, в 2016 году – это уже неофициальная информация в белорусских СМИ – она увеличилась почти до 170 миллионов долларов. В 2015 году с конвейера «МАЗВЕН» сошло только 325 грузовиков вместо планируемых 2,5 тысячи, в 2017 году эта цифра была совсем аховой: на белорусско-венесуэльском СП собрали… 14 автомобилей МАЗ.

Не менее критическая ситуация возникла и на «ВенеМинск Тракторес». Если еще в 2015 году предприятие смогло выполнить 41 процент плана и с конвейера сошло 705 тракторов «Беларус», то в 2017 году на заводе было собрано только 8 (!) тракторов. Осенью прошлого года в интервью нашей газете заместитель маркетинг-директора по коммерческой работе на рынках дальнего зарубежья Минского тракторного завода **Дмитрий Счастный** признался, что *«уже почти год, как мы приостановили свое участие в «ВенеМинск Тракторес», пока не будет решен вопрос с финансированием. Дело в том, что венесуэльская сторона не рассчиталась с МТЗ за поставленные комплектующие, долг вырос достаточно большой. Платить они не отказываются, но вопрос пока не решен».*

Идем дальше. В прошлом году выяснилось, что «Белзарубежстрой», который работает в Боливарианской Республике десятый год и в последнее время по правительственной программе Венесуэлы строит там целые жилые кварталы – тысячи квартир, детские сады, школы, оказывается, долгое время работает в Венесуэле почти за так. *«Задолженность весомая,* – рассказывал накануне визита президента Мадуро в Беларусь министр архитектуры и строительства **Анатолий Черный**. – *108 миллионов долларов задолженность перед компанией «Белзарубежстрой», и вот два вводимых дома дают еще пять миллионов долларов, поэтому финансовое положение сложное, тем не менее, понимая ситуацию, понимая отношения между нашими странами, мы продолжаем строительство».*

Испытывало в последние годы сложности и предприятие по добыче нефти «Петролера БелоВенесолана». В 2017 году на нем работал только один представитель Беларуси, хотя раньше на предприятии трудилось более 50 белорусов. В «Белоруснефти» – а ее доля в СП составляет 40 процентов – не скрывали, что объемы добычи нефти в Венесуэле упали. Раньше «Петролера БелоВенесолана» добывала порядка 1 миллиона тонн нефти в год, однако в последнее время показатель снизился, в прошлом году было добыто около 700 тысяч тонн.

## «В первую очередь они спасают себя»

*Что сейчас происходит на белорусско-венесуэльских СП?*

На белорусских флагманах – МТЗ и МАЗе – не отрицают, что долги не возвращены, работа совместных предприятий практически парализована.

**Александр Атрощик,** начальник управления внешнеэкономических связей по экспорту ОАО «МАЗ – управляющая компания холдинга «БЕЛАВТОМАЗ», говорит, что сейчас на СП "МАЗВЕН" МАЗы не собираются.

– *Технику, которую могли, всю собрали,* – рассказывает Александр Викторович. – *Провели в декабре дефектовку тех комплектов, которые там есть. Работа с нашей стороны ведется, а с венесуэльской… Там все заняты предстоящими президентскими выборами.*

**– Александр Викторович, а есть ли смысл сохранять в Венесуэле ваше СП, если и МАЗы не собираются, и долги возвращаются с трудом?**

– … (Пауза. – **Авт.**) *Сейчас ведется плановая работа по ликвидации задолженности и по дальнейшим перспективам сотрудничества с данным регионом.*

Стоит отметить, что недавно заместитель генерального директора Минского автозавода **Геннадий Скитов** заявлял в прессе, что *«если все нормально сложится, может, до конца года задолженность погасится».*

Заместитель маркетинг-директора по коммерческой работе на рынках дальнего зарубежья Минского тракторного завода **Дмитрий Счастный** не так оптимистичен, как его коллега Геннадий Скитов. Поставки комплектующих с МТЗ в Венесуэлу не возобновлены, трактора на «ВенеМинск Тракторес» не собираются.

– *Венесуэльская сторона рассчитывается с МТЗ очень туго, недостаточно у них финансов,* – говорит Дмитрий Владимирович. – *Поэтому сейчас отрабатываются некоторые варианты расчетов. А какая конкретная задолженность – это коммерческая тайна.*

Неохотно комментируют ситуацию с миллионной задолженностью венесуэльской стороны в строительной компании «Белзарубежстрой». Несмотря на долги, белорусы продолжают сегодня строить дома в штате Баринас, городе Маракай и столице Венесуэлы Каракасе. Точнее, строят рабочие-венесуэльцы под руководством и контролем белорусских инженеров. И, к слову, последняя новость на сайте «Белзарубежстроя» – недавний репортаж канала ОНТ из Венесуэлы. Генеральный директор компании **Виталий Бондарик** говорит о том, на каких условиях «Белзарубежстрой» сейчас работает в Боливарианской Республике: *«Конечно, нам пришлось привлечь стороннее финансирование. Финансирование не белорусского происхождения. Это ресурсы из далеких ОАЭ. Мы стараемся каждый раз договариваться, каким-то образом рефинансироваться, потому что венесуэльская сторона не отрицает тех долгов, которые есть. Они подтверждают, что мы долги имеем перед белорусской организацией, мы долги признаем, долги будут выплачены».*

Ну и наконец белорусско-венесуэльское СП по добыче нефти и газа – «Петролера БелоВенесолана». Как обстоят дела там?

– Предприятие работает, добыча газа и нефти осталась на уровне прошлого года, идем по месяцам в том же ритме, – поясняет заместитель начальника управления внешнеэкономической деятельности «Петролера БелоВенесолана» **Павел Лях**. – И это хорошо с учетом отсутствия активной инвестиционной фазы, но плохо, потому, что потенциал предприятия значительно больший. Увеличивать штат наших сотрудников пока не планируем. В Венесуэле по-прежнему остается только один наш представитель, он сопровождает интересы «Белоруснефти» в компании.

**– И какие планы на будущее? Есть ли предпосылки, что получится увеличить объемы добычи нефти?**

– Сегодня ведется работа на уровне правительства, чтобы дать новый импульс развитию всего этого процесса. Безусловно, наша задача как производственной компании – увеличить объем производства конечного продукта – нефти. На это мы нацелены.

**– А что касается дивидендов от продажи нефти?**

– В случае прибыли мы будем претендовать на долю до 40 процентов дивидендов. Но это может быть после проведения аудита бухгалтерской отчетности.

**– За 2017 год такая отчетность проведена?**

– Нет, эта отчетность еще не готова.

**– Нет опасений, что венесуэльская сторона с вами не рассчитается? Задолженность перед белорусскими партнерами – это сегодня обычное дело для венесуэльских предприятий…**

– Прибыль, если она есть, но не распределена в рамках совета акционеров на дивиденды, автоматически идет на развитие предприятия, на реализацию инвестиционной программы, то есть на добычу нефти.

Откровенно говоря, 100-процентной гарантии, что венесуэльская сторона рассчитается с нами в этом году, нет. Ситуация там сложная и потому, что скоро президентские выборы, и потому, что очень динамичный валютный курс, гиперинфляция. Первоочередная задача для Венесуэлы – стабилизировать экономику страны. В первую очередь они спасают себя. Но от долгов не отказываются. И если все оформлено документально и ни у кого не возникает претензий – контрагентами подписан акт сверки, – то расчет произойдет. Вопрос только в том, когда. В этом году, через год или через два.

**– Я так понимаю, что речь идет не только о возможных долгах за 2017 год?**

– Все правильно. У них образовалась задолженность по договору технического содействия за 2016 год. То есть остались долги перед «Белоруснефтью» за аренду персонала.

**– А долги по дивидендам?**

– Венесуэльская сторона рассчиталась с нами включительно по 2014 год. Аудированной отчетности по 2015-му и 2016 годам пока нет. В любом случае мы сотрудничаем в рамках юридической плоскости.

**– Павел Леонидович, скажите честно: есть ли смысл нам оставаться в Венесуэле?**

– Конечно! Вся работа «Белоруснефти» в Венесуэле связана исключительно с прибылью. За период 2008–2017 годов совместным предприятием «Петролера БелоВенесолана» было добыто более 9 млн тонн нефти и 6,8 млрд куб. метров газа. Если посмотреть баланс затрат и выручки, то мы в глубоком плюсе даже с учетом того, что сегодня сохраняется задолженность венесуэльской стороны перед нами. Финансовый результат, который получила Беларусь за годы работы СП, составляет порядка 70 миллионов долларов. Это живые деньги, которые были получены. И не надо забывать, что мы еще получили нефтяную компанию в Венесуэле, которая стоит значительно больше. Там идет расчет на сотни миллионов долларов.

**– Но найдется ли покупатель?**

– На любой товар всегда найдется покупатель. Вопрос в цене…

**Мария ЭЙСМОНТ.**

## Только факты

Насколько оправдано стремление белорусских властей поддерживать тесные взаимоотношения, надеясь на эффективность экономических проектов со страной, которая возглавила десятку «самых несчастных экономик мира» по версии Bloomberg?

По оценкам экспертов, внешний долг Венесуэлы составляет 155 миллиардов долларов. Кризис в стране продолжается не один год, в Венесуэле не хватает продуктов питания, медикаментов, товаров первой необходимости. По оценкам местных властей, с января 2017 года по январь 2018-го инфляция превысила 4000 процентов. В феврале 2018 года показатель инфляции уже превысил в годовом выражении 6000 процентов.

НУ І НУ!

## Шчодры падман

Днямі тэрмінова спатрэбіўся газавы балон. У бліжэйшым да дома ўнівермагу, былым флагмане савецкага гандлю, мне пашанцавала двойчы: па-першае, патрэбны балон ёсць у продажы, а па-другое, у гэты дзень уладальнікам спецыяльнай карткі давалі зніжку аж 25 працэнтаў ад кошту тавару. Патрэбную картку я маю, але, убачыўшы цэннік, тую картку з кішэні нават не даставаў. Праехаўшы ад універмага на трамваі тры прыпынкі, я зайшоў у спецыялізаваную краму газавага абсталявання і набыў патрэбны балон.



Балоны вырабляе айчыннае прадпрыемства – Навагрудскі завод газавага абсталявання. У спецыялізаванай краме балон ёмістасцю 5 літраў каштуе 34 рублі 13 капеек, а балон ёмістасцю 27 літраў – 64 рублі 67 капеек. Ва ўнівермагу 5-літровік каштуе 47 рублёў 69 капеек, а 27-літровы – 90 рублёў 69 капеек. Аматары арыфметыкі могуць пераканацца, што зніжка, якую бадзёра абвяшчае ўнівермаг, не дае выгады пакупніку.

Невялікая радасць – тыя трынаццаць з паловай рублёў, што засталіся ў маёй кішэні пасля набыцця балона. Але ніяк не пазбаўлюся ад агіды і грэблівасці, выкліканых хлуснёй і нахабным здзекам з пакупнікоў, які ўчыняюць шарамыгі з універмага.

Нешта не так у нашай дзяржаве, калі мана ў цане…

**Кастусь КАЛІНА.**

ВЫ ЦІКАВІЛІСЯ

## Што з Юрыем Леднікам?

*«У свой час па Беларускім тэлебачанні паказвалі прапагандыцкую перадачу «P.S.», якую вёў Юрый Леднік. Але ўжо нейкі час гэтага чалавека не бачна на экранах тэлевізара. Можа, ведаеце, што з ім?»*

**Міхась ГУЛЕВІЧ, Мінск.**



– Пяць гадоў таму Юрый Леднік памёр ад анкалагічнага захворвання ва ўзросце 38 гадоў. У яго засталіся жонка і двое дзяцей.

Леднік быў намеснікам дырэктара Агенцтва тэлевізійных навін, на тэлебачанне прыйшоў у 2003 годзе.

ЛЁСЫ ЛЮДСКІЯ

# Добрай жыццёвай дарогі табе, Вераніка!

*Спалучэнне вонкавай і душэўнай красы*

У дзяўчыны адухоўленае аблічча, праніклівыя светлыя вочы, пышныя русыя валасы. Я кажу пра Вераніку Астапук, студэнтку Пінскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў. Яна старанная ў вучобе, пра што сведчаць выдатныя адзнакі і – адпаведна – павышаная стыпендыя. Як рыбка ў вадзе пачуваецца ў танцы, любіць выконваць народныя песні і класічную музыку на акардэоне. Вераніка надзвычай акуратная. Разам з аднакурсніцай Аляксандрай утрымлівае ў ідэальным парадку інтэрнацкі пакой, які даўно прызнаны самым чыстым. А калі дзяўчаты пасяляліся, ён знаходзіўся ў жахлівым стане. З усяго сказанага вынікае: такімі працавітымі і паспяховымі навучэнкамі, як Вераніка, можа ганарыцца любая навучальная ўстанова.



Калі ж улічыць, што дзяўчына рослая, стройная, у яе тонкая талія, прыгожая хада, а галоўнае – добры інтэлектуальны ўзровень, то абсалютна відавочна: яна магла б прэтэндаваць на перамогу ў конкурсе "Міс Беларусь". Нехта іншы і прэтэндаваў бы, выйшаў бы, не ведаючы што такое пачуццё сораму, у плавачках на подыум перад галоднымі да такіх відовішчаў журы і публікай. Нехта, толькі не яна, бо не яе стыхія – выстаўляць сябе напаказ.

Хтосьці можа пазайздросціць студэнтцы-выдатніцы, думаючы, быццам яна адназначна ўдачлівая і шчаслівая. Аднак мала хто ў каледжы ведае, што давялося перажыць ёй, якія цяжкія стрэсы траўміравалі юную душу і як ёй даліся перамогі над сабой.

### Суровы лёс

Гора ўдарыла па ўсёй сям'і знянацку: у сорак сем гадоў памёр бацька.

Воінская часць, у якой Валерый Іванавіч Астапук служыў маёрам і якая калісьці размяшчалася ў ГДР, часова апынулася ў Брэсце. Адсюль яе кінулі ў Чарнобыль на барацьбу з марадзёрамі, што "чысцілі" дамы і хаты, спрабуючы пагрэць рукі на людской бядзе… Вярнуўся афіцэр гіпертонікам: арганізм не справіўся з празмернай дозай радыяцыі. З той пары давялося змагацца з высокім артэрыяльным ціскам. З арміі, вядома, камісаваўся. Меў сякі-такі легкавічок. Нейкі час зарабляў на хлеб надзённы, падвозячы пасажыраў. Пасля з сябрамі і жонкай Наташай пачаў купляць у Польшчы і Германіі машыны і прадаваць іх на аўтамабільным рынку. Не было свайго жылля, збіралі грошы на кватэру. А тут падняў галаву рэкет. Спачатку наляцелі омскія рэкеціры. Пад маркай пакупнікоў дамовіліся сустрэцца з Валерыем у адным з загарадных гатэляў, дзе нібыта ляжалі іхнія грошы… Там, не разлічваючыся за аформленую на аднаго з іх машыну, патрабавалі ключы ад яе. Ля скроні трымалі пісталет. Выручыў друг Пеця, ён адчуў небяспеку і на стаянцы сваім аўтамабілем перагарадзіў машыну вераломных прыхадняў. У рэшце рэшт ім давялося ратавацца ўцёкамі. У другім выпадку нахабна дзейнічалі айчынныя рэкеціры, яны на аўтарынку спрабавалі прымусіць Валерыя частку грошай аддаваць "на братву"… Не паспеў ён запярэчыць, як адзін мярзотнік выбіў яму сківіцу.

Шмат яшчэ непрыемнасцяў зведаў Валерый, што, вядома ж, не спрыяла здароўю. Ды на сваё нездароўе ён амаль не звяртаў увагі, жыў новымі праектамі. Аднаго разу на сваёй машыне вяртаўся з магазіна дадому. З ім разам ехалі жонка, Веранічка і сяброўка сям'і. У дарозе яму стала блага. Нейкім цудам ён даехаў да свайго пад'езда, нават прыпаркаваў машыну. І тут страціў прытомнасць. "Хуткая дапамога" забрала яго ў рэанімацыю. Валерый Іванавіч упаў у кому.

Вераніка сэрцам адчула небяспеку. "Божанька, уратуй майго татачку!" – звярталася яна да Усявышняга. І горка плакала.

### Пяшчотныя лісты да бацькі і воблачная ружа

Калі не стала бацькі, Вераніка ўпала ў адчай і скруху. Каб аслабіць іх разбуральнае дзеянне, вельмі важна было як мага часцей слухаць добрых, чуйных, мудрых людзей, абапіраючыся на іх падтрымку, перамагаць сябе, дужэць фізічна і духоўна ў гаючым руху часу. Тады ішоў ёй толькі адзінаццаты год. Акрамя вучобы ў сярэдняй школе, яна працягвала наведваць у Брэсце харэаграфічную. Праўда, у гэтую ўстанову ішла ўжо неахвотна. Маці ўвесь час угаворвала, мяркуючы, што дадатковыя заняткі будуць хоць трошкі памагаць дачцэ адысці ад невымоўнага гора, прыглушаць боль ад глыбокай раны.

Аднак атрымлівалася ўсё наадварот: ад наведвання той харэаграфічнай школы незагойная рана дзяўчынкі смылела яшчэ мацней. Там не тое што не заўважалі яе пакут, а як бы стараліся іх не заўважаць. Маўляў, ты стала сумная і змрочная – твае праблемы. Яе перасталі куды-небудзь запрашаць, быццам яна ўвесь час адсутнічала. Усе заняты ў танцы, а Вераніка – убаку; усе едуць у Балгарыю, а яе не бяруць…



Ад адзіноты ўсё часцей яна з мамай ездзіла на могілкі. З'явіліся праблемы са здароўем: недзе застудзіла ныркі. Спрацоўваў эфект ланцуговай рэакцыі: Вераніка пачала адставаць у вучобе, асабліва па матэматыцы. Маці знайшла рэпетытара, а тая запатрабавала па дзесяць "зялёных" за адзін урок. Дзе было ўзяць такія грошы, калі Валерый пакінуў ёй не толькі недабудаваны дачны дамок з ледзь пачатаю лазняй, а і дваццаць тысяч долараў доўгу, і ёй даводзілася эканоміць на ўсім?..

Да Наташынай і Веранічкінай бяды, да іхніх клопатаў аказаліся неабыякавымі родзічы. Як магла і чым магла дапамагала маці Наташы – Марыя. Пенсіянерка, яна яшчэ працавала, таму мела чым дзяліцца з дачкой і ўнучкай. Сястра Наташы дапамагала не толькі матэрыяльна: Людміла часта правярала веды пляменніцы, рыхтавала яе да заняткаў у школе. Нават апынуўшыся ў замежжы, часта вярталася да сястры, каб падтрымаць, падбадзёрыць і яе, і Вераніку.

А найпершым апірышчам для Веранікі заўсёды была і застаецца маці. Яна ў самы цяжкі час шукала сардэчных і таленавітых спецыялістаў – псіхолагаў, дактароў. Гэта давала эфект. Адна доктарка апроч удалага лячэння суцяшала Вераніку, сагравала сваёй душэўнаю цеплынёй: "Твой тата бачыць цябе, чуе, назірае за табой, старайся расці сапраўднай яго дачкою". Такі наказ супадаў з настроем Веранікі. Яна складала пяшчотныя лісты, адрасуючы іх "дарагому тату", "любімаму татулечку"; у іх распавядала пра сябе, пра ўсе свае справы, пра імкненне быць падобнай да яго. Аднойчы ў дзень свайго нараджэння дзяўчынка з матуляй вярталіся з крамы "Буслік". Раптам Вераніка ўсклікнула: "Глядзі, глядзі, мама: тата мне ружу падараваў!" Наташа ўзняла вочы і ўбачыла на небе рэдкасны цуд: белае воблачка ў форме ружы. Усцешаная дзяўчынка працягвала: "Гэта самы лепшы мне падарунак, мамачка!"

### Рэальнасць і мроі

Наташа разумела: падрастаючай дачцэ трэба і ў творчым плане расці, прынамсі не страчваць дасягнутае. Таму павяла яе ў Цэнтр маладзёжнай творчасці. Хвалявалася: "Як прымуць? А раптам не спадабаецца?"

Запісала ў народны тэатр. Яго кіраўніца спадарыня Лісneўская прыняла новенькую з вялікай радасцю і адразу пачала даручаць ёй відныя ролі ў казачных спектаклях: "Аліса ў краіне цудаў", "Новы год і пёрка жар-птушкі" ды многіх іншых. Акрыялая Вераніка з радасцю выступала то ў ролі Мяцеліцы, то ў ролі фрэйліны каралевы, часам была танцоркай, калі-нікалі вядучай. І ўсюды спраўлялася паспяхова.

У Пінск дзяўчына ехала акрыленая. Пакуль здавала іспыты ў каледжы, жыла на прыватнай кватэры. На пачатку навучальнага года ёй далі інтэрнат. Але адведзены пакой засмуціў першакурсніцу: шпалеры на сценах былі пашарпаныя, шафу праеў грыбок, з усіх шчылін выпаўзалі прусакі. Толькі гэтага не хапала дзяўчыне, якая прывыкла па тры разы штодня ўмывацца! Ну, вядома, паскардзілася маме, а мама не давала спакою караўніцтву каледжа, пакуль не дамаглася рамонту.

У гэтым пакоі, дзе даўно пануе ідэальны парадак, Вераніцы, як і яе аднакурсніцы Сашы, застаецца пажыць зусім нядоўга, бо пасля лета пойдзе трэці – заключны – курс. У душы дзяўчыны выспеў новы прывабны план: пасля завяршэння вучобы ў Пінску паступіць у Мінскі дзяржаўны ўніверсітэт культуры, каб атрымаць акцёрскую прафесію.

Мэту дзяўчына акрэсліла няпростую. Вучоба на акцёра спецыфічная, цікавая, але цяжкая, апроч таго, працяглая – пяць гадоў.

А ў яе маці з'явілася сур'ёзная праблема з працай. Нямала гадоў запар цягнула лямку касіркі ў еўраоптаўскім магазіне – па дванаццаць гадзін у дзень. За пяцьсот рублёў. Пры тым трэба залішне кланяцца кожнаму пакупніку, такія там цяпер правілы. І вось не вытрымала сёлета душа: кінула Наташа агорклую работу. Паехала ў Польшчу на збор шампіньёнаў. Мала што даў той новы вопыт. З'ездзіла ў Германію, працавала месяц у садоўніка. Там цяжкай фізічнай працай зарабіла тысячу еўра. Даводзілася капаць ямы пад пасадку дрэў і кустоў. На штосьці падобнае настройваецца і надалей: у ліпені адкрые новую візу. Галоўнае – каб здаровілася: некалі ў яе была анкалогія… Так хочацца дапамагчы Веранiцы, каб дачка здзейсніла сваю мару! А мне застаецца пажадаць: добрай жыццёвай дарогі табе, Вераніка! Няхай ніколі ў тваім сэрцы не збіваецца дакладны эстэтычны компас.

**Васіль ЖУКОВІЧ.**



ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО

На пытанні чытачоў адказвае старшыня Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА "Беларускае таварыства абароны правоў спажыўцоў" Васіль ВАЛАСЮК.

### Вярнуць тавар у магазін

*Набыў у магазіне ультрагукавы апарат для ўвільгатнення паветра. Праз тыдзень з'явіліся праблемы: з апарата пачала выцякаць вада. Заўважыў, што пашкоджана разьба на накрыўцы воднага рэзервуара. Магчыма, з-за няякаснага пластыку. У магазіне адмовіліся вярнуць мне грошы. Прадавец сказаў, што, маўляў, гэта механічнае пашкоджанне, таму трэба звяртацца для рамонту ў сэрвісны цэнтр. Ці так гэта?*

**Сяргей ТРУХАН, г.Маладзечна.**

– Прадавец няправільна вас праінфармаваў. Права вызначаць характар пашкоджання (механічнае альбо не) належыць толькі эксперту. Спажывец мае права напісаць заяву аб адмове ад рамонту і запатрабаваць вярнуць грошы.

### У аўтасэрвісе дрэнна адрамантавалі машыну

*У мяне рабочая машына – мікрааўтобус. Аддаў яго ў аўтасэрвіс, былі праблемы з рухавіком. Купіў усе неабходныя запчасткі ў магазіне і аплаціў рамонт машыны. Праз некалькі дзён пасля рамонту зноў пачаліся праблемы з рухавіком. Я звярнуўся ў той жа сэрвіс, мне сказалі, што будуць разбірацца. Ці павінен я зноў аплачваць рамонт і кошт запчастак?*

**Васіль КУЧЫНСКІ, Гродна.**

– Калі ёсць дакументы, якія пацвярджаюць, што раней машына рамантавалася менавіта ў гэтым аўтасэрвісе, выправіць усе недахопы вам павінны бясплатна.

### Купіла лямпу з аголеным провадам

*Купіла настольную лямпу. Калі выбірала, не заўважыла, што правады крыху агалены. Натуральна, заўважыла недахоп дома. А калі вярнулася ў магазін, каб абмяняць лямпу, прадавец мне адмовіў. Што рабіць?*

**Святлана ЗАКРЭЎСКАЯ, г.Рэчыца.**

– Вы можаце напісаць пісьмовую прэтэнзію з просьбай замяніць вам няякасны тавар. І вашу просьбу павінны задаволіць.

### Ці патрэбны пашпарт для вяртання грошай?

*Набыла ў магазіне спартыўны трэнажор, але дзесьці праз тыдзень заўважыла ў корпусе расколіну. Вярнула яго прадаўцу, мне сказалі, што гэта вытворчы недахоп. Для вяртання грошай запатрабавалі пашпарт. Скажыце, навошта магазіну мае пашпартныя дадзеныя, калі я прадаставіла чэк?*

**Таццяна СКРЫГАН, г.Ліда.**

– Вяртанне грошай адбываецца толькі па чэку і асабістай заяве спажыўца. Іншыя дакументы не патрабуюцца, таму ў вашай сітуацыі прадавец праявіў нейкую незразумелую ініцыятыву.

### Фен пры награванні выключаецца

*Набыла фен у магазіне, падчас праверкі працаваў нармальна. Дома высветлілася: апарат, калі нагрэецца, сам аўтаматычна выключаецца. Ці змагу я вярнуць фен у магазін без чэка?*

**Валянціна МУРАШКА, Лепельскі раён.**

– Зможаце, калі знойдзеце двух сведак, якія пацвердзяць факт пакупкі.

### Кухонны камбайн увесь час у рамонце

*Ці можна працягнуць гарантыю на кухонны камбайн, калі праз паўгода пасля пакупкі я ім карысталася толькі 2 месяцы, а астатні час тэхніка была ў рамонце?*

**Людміла ТКАЧУК, г.Слонім.**

– Маеце на гэта поўнае права.

### У смартфоне не працуе мікрафон

*Набыў смартфон, праз паўгода зламаўся мікрафон – мяне ніхто не чуе, калі я размаўляю па тэлефоне. Аддаў апарат у магазін, каб адрамантавалі, праз месяц забраў. Ізноў смартфон перастаў працаваць. Што я павінен рабіць у такой сітуацыі?*

**Валянцін МАРЧЫК, г.Дзяржынск.**

– Паўторнае праяўленне дэфекту – гэта істотны недахоп, а таму можаце патрабаваць замены тэлефона на новы.

### Дрэнна працуе прас

*Набыла ў камісійным магазіне паравы прас, а дома высветлілася, што ён практычна не пускае пару. Ці магу я вярнуць грошы за тавар альбо абмяняць яго?*

**Аксана НОВІКАВА, Мінск.**

– Можаце.

### Калі з рамонтнікамі не заключылі дамову…

*Закончылі рабіць рамонт у кватэры, а праз два дні пачалі адвальвацца шпалеры. Патэлефанавала рабочым, якія рабілі рамонт, тыя катэгарычна адмовіліся выпраўляць недахопы. На жаль, ніякую афіцыйную дамову мы не складалі, рамонтнікаў я знайшла па аб'яве ў інтэрнэце. З доказаў захавалася толькі наша электронная перапіска… Ці змагу я нешта даказаць без дамовы на выкананне паслуг?*

**Алеся КОРЗУН, г.Вілейка.**

– Для вырашэння такой няпростай сітуацыі я параіў бы вам звярнуцца да спецыялістаў Таварыства па абароне правоў спажыўцоў. Думаю, яны вырашаць вашу праблему.

### Правісла столь у пакоі

*Год таму зрабілі рамонт у кватэры, нацяжную столь заказалі ў мантажнай кампаніі. Праз год столь правісла, гэта вельмі псуе эстэтычны выгляд пакоя. Ці можам мы разлічваць, што кампанія бясплатна выправіць недахопы?*

**Віталь ЦЯРЭШЧАНКА, г.Жлобін.**

– Можаце, і для гэтага напішыце пісьмовую прэтэнзію. Наколькі мне вядома, тэрмін гарантыі на такога кшталту работы – 3 гады.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

# Куда делось миролюбие России?

У нас в Западной Беларуси когда-то бытовало такое недоброе пожелание: "Чтобы тебя поляки захватили, а русские освободили". Причиной его появления стали те злодеяния, которые совершили на белорусской земле советские военные и карательные органы, особенно отряды НКВД. Да, они это делали по приказу своих правителей. Я успел побеседовать с некоторыми карателями-злодеями в конце их жизни. В их ответах красной нитью проходила мысль, что они злодеяний не совершали б, если бы не данная когда-то кому-то присяга.

Они пускали слезы в рюмку и уверяли, что не хотели этого делать, но за невыполнение приказа командира следовало наказание, вплоть до расстрела. Поэтому спасали свои жизни. Правда, несколько бывших сотрудников НКВД заявили, что уничтожали людей, не мучаясь угрызениями совести, так как были уверены, что они действительно враги народа. Ведь большевики никогда не ошибались...

Я рассказал об этом курсантам военно-технического факультета БНТУ, где читал лекции по менеджменту. И задал вопрос: как бы вы поступили, оказавшись на месте злодеев? Ответ меня не удивил. У большинства и сегодня мозги ориентированы на безоговорочное выполнение приказа командира. И только один из 200 заявил, что если бы он был уверен в невиновности людей, то сначала застрелил бы командира, а затем попробовал спастись бегством. Мне стало грустно. Вот к чему привела система образования в нашей стране.

И вспомнилось, как, работая заведующим кафедрой в Академии управления при СМ БССР, я в 1990 году проходил повышение квалификации в Академии народного хозяйства при Совмине СССР (она располагалась в Москве на проспекте Вернадского). О своих преподавателях-москвичах могу сказать: профессионалы высшего класса. Например, благодаря их стараниям, я понял важность маркетинга, полюбил эту науку и практику успешного ведения бизнеса, преподавал ее в университетах и как мог популяризировал в нашей стране. Замечу, что тогда в Москве отношение к белорусам и украинцам было в высшей степени доброжелательным.

А в 1963 году я трудился путевым рабочим на строительстве железной дороги Абакан–Тайшет. Меня окружали простые русские люди, поколения которых жили в Сибири, сидели там в тюрьмах или были на высылке. Характерная черта сибиряков: пьянки после работы и драки. Примерно раз в неделю они заканчивались поножовщиной и трупом. По моему мнению, страсть русских к насилию является врожденной.

Мне думается, что сегодня Путин выражает коллективное желание более 50% русских внутри страны и за рубежом – "мочить" Украину, прижать "младших братьев" так, чтобы дрожали остальные соседи. Поэтому Путин снова стал президентом РФ (причем без всяких фальсификаций).

Сам по себе напрашивается вопрос: куда делось миролюбие русских людей? Почему сегодня бездействует великая русская интеллигенция?

Моя двоюродная сестра, врач Елена Петровна Кулик, вышла замуж за русского, и теперь ее дети и внуки живут в Белгороде. Ее родной брат Анатолий работал начальником шахты в Червонограде Львовской области. Сегодня внуки Лены воюют против внуков Толи, убивая друг друга! Это стало возможно, я в этом уверен, только вследствие имперской политики Кремля.

Поскольку семья моего покойного брата Григория живет в Белой Церкви на Киевщине, то я больше переживаю за Украину. Да простят меня родственники из Белгорода...

Мои родители были глубоко верующими людьми (баптистами) и жили по библейским заповедям. Мама умерла своей смертью в 78 лет, а отец был репрессирован, в 40 лет его доканали в сибирских лагерях.

Как-то в Минске в Доме молитвы "Голгофа" проходил день памяти родителей. Меня туда тоже пригласили, и я откликнулся, поскольку это был подходящий случай вспомнить родителей в кругу их единоверцев. Присутствующая там же землячка-брестчанка сказала, что если я буду ходить на их собрания и молиться Богу, то смогу простить тех русских, что оставили нас сиротами. Но разве такие преступления должны прощаться?

Мы видим сегодня, как безнаказанность за прошлые злодеяния подталкивает Россию к новым агрессивным действиям и преступлениям против человечности. Когда же она остановится и станет действительно безопасной соседкой для других народов?

**Иван КУЛИК.**

*Минск.*

ЗАКУЛИСЬЕ

# Достоверный свидетель



*Я помню этого человека с момента, когда советская политика стала публичной. Молодой, большелобый, усатый – тенью шел он рядом с Горбачевым и Рейганом, Горбачевым и Бушем, сопровождал Шеварднадзе в бытность его министром иностранных дел. Вслушивался, запоминал, переводил.*

*Если есть достоверный свидетель тех политических событий, то это Павел ПАЛАЖЧЕНКО – личный переводчик высших руководителей СССР, участник всех их переговоров с западными лидерами. Сейчас он руководит службой международных связей и контактов с прессой «Горбачев-Фонда».*

*Павел Русланович согласился поговорить о том, насколько схожа нынешняя ситуация в международной политике с той, что была в период «холодной войны».*



С Горбачевым и Рейганом на красной площади.

**– Когда заканчивалась первая «холодная война», какие эмоции испытывали участники процесса – и те, кто принимал решения, и те, кто их готовил?**

– Эмоции были разные, да и сами переговоры были непростыми. Мы ведь заканчивали «холодную войну» через решение конкретных вопросов, и именно так устанавливалось доверие. Когда занимаешься конкретными делами, эмоций не очень много – не до них. В последние месяцы эпохи Рейгана, и тем более на Мальте и после Мальты, мы исходили из того, что «холодная война» осталась в прошлом. Я хорошо помню, как после переговоров с Рейганом в Москве – это был конец мая 1988 года – он и Горбачев совершили прогулку по Красной площади. Когда вернулись в Кремль, Рейгану возле Царь-Пушки был задан вопрос, считает ли он Советский Союз по-прежнему «империей зла». И он ясно сказал: «Нет. Это было другое время, другая эпоха».

**– Сейчас у российских политиков считается хорошим тоном обвинять советское руководство: дескать, Горбачев и Шеварднадзе позволили себя обмануть, Запад обещал одно, а поступил иначе. Что не должно было быть ни расширения НАТО, ни распада СССР. Был ли этот обман на самом деле?**

– Никакого обмана не было. Все, о чем договаривались, было зафиксировано в договорах – прежде всего в Договоре об окончательном урегулировании в отношении Германии, подписанном в сентябре 1990 года в Москве. Там, в частности, зафиксировано обязательство о нераспространении дополнительной инфраструктуры НАТО на бывшую территорию ГДР, о неразмещении там оружия массового поражения, о сокращении почти в два раза германской армии. Последнее – беспрецедентное одностороннее обязательство ФРГ, и оно было не только выполнено, но и перевыполнено. Все, о чем можно было договориться в тех условиях, было предусмотрено и записано. Вопрос о странах Центральной и




Восточной Европы не поднимался, поскольку они тогда еще не выражали желания вступить в НАТО. До 1993 года они в НАТО не просились, и НАТО их не приглашало. «Вбрасывать» эту идею с нашей стороны было бы тогда глупо. И, конечно, никто не мог тогда предусмотреть возникновение на месте СССР новых независимых государств. И что бы ни говорили сегодня, у Запада не было политики, направленной на расчленение СССР.

Можно по-разному оценивать те перемены, которые потом произошли во взаимоотношениях Запада и России, но винить в этом Горбачева – это как если бы советское руководство в 1942 году обвинило в том, что происходило, Николая II. Это нечестная позиция, на мой взгляд. К сожалению, по большому счету внешняя политика России в последующие годы не была успешной. Сделать Россию крупным конструктивным участником международных процессов, страной, которая влияет на создание системы международной безопасности в Европе и на урегулирование конфликтов, не удалось. Отсюда и попытки свалить на Горбачева ответственность.

**– Этот неуспех международной политики России был объективным или какую-то роль играли и субъективные факторы?**

– Наверное, было и то, и другое. Политика, направленная на интеграцию России в мировые политические и экономические структуры, как она началась еще при Горбачеве, не была целиком безуспешной. Было довольно успешное сотрудничество между Россией и Западом в 1990-е и последующие годы. Есть договор о сокращении стратегических наступательных вооружений, подписанный Медведевым и Обамой в 2010 году. Это позитивная сторона. Поэтому я не хотел бы мазать все одной краской. Конечно, есть и субъективный, и объективный факторы. Не все, на мой взгляд, было правильно в политике Запада. Но винить Горбачева проще, чем выстроить эффективную внешнюю политику.

**– То, что происходит сейчас между Россией и ее союзниками и США и их союзниками, можно ли это охарактеризовать как начало новой «холодной войны»?**

– «Холодная война» была сложным явлением, и уже в годы Брежнева главным содержанием в деятельности обеих сторон было не довести дело до «горячей войны». Не допустить ее перерастания в реальный конфликт двух сверхдержав. Я думаю, эта тенденция есть и сейчас. Да, много негативной риторики, причем риторика хуже и острее, чем в годы «холодной войны». Но еще есть возможность совершить разворот, пусть не на 180 градусов, но уйти от глобальной конфронтации, которая возникла между Россией и Западом.

Вы упомянули Россию и ее союзников. Одним из негативных аспектов сложившейся ситуации является тот факт, что настоящих союзников у России не видно. И нужно задуматься над тем, почему в Совете Безопасности она не набирает нужных голосов. Вообще, мне кажется, нужны какие-то шаги, которые позволили бы работать по нормальной повестке дня. Прежде всего нужно вернуться к вопросам стратегической стабильности, сворачивания гонки вооружений, постепенно расширять сферу общих интересов.

**– Неужели после Крыма и после Донбасса, а сейчас – после Сирии – полноценное сотрудничество все еще возможно?**

– Сразу, конечно, нет, но что касается Сирии, то возможности были, когда в последний год президентства Обамы госсекретарь Керри несколько раз приезжал в Москву, и они с Лавровым вели переговоры. Там был определенный прогресс. Сирия – точно не тот предмет, который стоит конфронтации между Россией и США. Это преодолимо. Две страны, имеющие такой мощный ядерный потенциал, могут и должны в этом вопросе договориться.

Крым, Донбасс – тут сложнее. Полноценный диалог, конечно, пока невозможен: что касается Крыма, то в обозримом будущем проблема эта нерешаемая. Донбасс, на мой взгляд, проблема решаемая, и я думаю, что и в подтексте, и даже в тексте нынешней российской политики можно увидеть признание того, что Донбасс – это часть Украины.

Понятно, что ни одно украинское правительство не откажется от того, что Крым – это часть Украины, как ни одно российское правительство даже обсуждать не станет его принадлежность России. Тут как раз полный тупик, это надо понимать. Но это не означает, что не нужно разговаривать. Путин и Порошенко ведут телефонные переговоры. Начальники штабов России и США встречаются и поддерживают контакты. Трудности впереди огромные, но разговаривать друг с другом придется. Диалог – это необходимость, без политического, дипломатического взаимодействия в современном мире нельзя.

**Беседовал Александр ФЕДУТА.**

ЧУЛІ?

## Больш не прысніцца Пальма-дэ-Маёрка

Улады іспанскага горада Пальма на востраве Маёрка забаранілі нелегальную здачу кватэр на кароткі тэрмін. Мясцовыя жыхары скардзяцца на тое, што арэнда жылля з-за наплыву турыстаў стала занадта высокай: з'явілася шмат сайтаў, якія прапаноўваюць кватэры і дамы на кароткі тэрмін, і гэта прыносіць больш грошай уладальнікам жылля, чым здача таго ж жылля на доўгі тэрмін. Але ж з 11 тысяч кватэр у Пальме толькі на 645 ёсць неабходная ліцэнзія на аказанне падобнага кшталту паслуг. Са здачы "левых" кватэр муніцыпалітэт не атрымлівае падаткаў. Таму ўжо ў мінулым годзе была забаронена рэклама кватэр і дамоў, уладальнікі якіх не атрымалі адпаведнай ліцэнзіі.

Гэта першая спроба мясцовых улад у Іспаніі такім чынам абмежаваць магчымасці турыстаў на карысць мясцовых жыхароў. Але ж прадстаўнікі асацыяцыі прадпрымальнікаў папярэджваюць, што падобныя рашэнні не пойдуць на карысць бізнесу. Нагадаем: менавіта турызм з'яўляецца сёння найбольш важкім артыкулам даходнай часткі іспанскага бюджэту.

ВАЙНА

## Новы Афган: ЗША ў ролі СССР?

Талібы абвясцілі пачатак новага ваеннага наступлення ў Афганістане. Зараз іх галоўнай мэтай будуць вайскоўцы Злучаных Штатаў Амерыкі і дзяржаў, якія з'яўляюцца іх саюзнікамі, а таксама асобы, якія будуць западозраны ў супрацоўніцтве з амерыканскай разведкай. Паводле слоў кіраўнікоў Талібана (гэтая радыкальная ісламісцкая групоўка кантралюе сёння прыкладна 14% тэрыторыі Афганістана), прысутнасць у краіне амерыканскіх салдат цалкам выключае магчымасць працягу перамоў паміж афіцыйнымі ўладамі ў Кабуле і Талібанам, якія былі распачаты ў лютым па ініцыятыве прэзідэнта Афганістана Ашрафа Гані.

Зразумела, што талібы адразу разглядалі час перамоў выключна як магчымасць добра падрыхтавацца да "гарачага летняга сезона". Але ж амерыканцы падрыхтаваліся да яго крыху раней: у жніўні 2017 года прэзідэнт Трамп прыняў рашэнне павялічыць кантынгент амерыканскай арміі ў Афганістане на чатыры тысячы салдат.

Нагадаем, што за дзесяць гадоў удзелу "абмежаванага кантынгенту" савецкіх войскаў у Афганістане (1979–1989) было забіта і знікла без весткі больш за 15 тысяч савецкіх салдат; звыш 50 тысяч было паранена, з іх звыш 10 тысяч засталіся інвалідамі. І гэта – толькі афіцыйныя звесткі, якія шэраг экспертаў лічыць заніжанымі. Што будзе чакаць амерыканцаў пасля ўзнаўлення маштабных ваенных аперацый, можна толькі здагадвацца.

НА ДАЛОНЯХ ВЕЧНАСЦІ

Анатоль БУТЭВІЧ

# Тураўскае Евангелле



Колькі б ні мінула часу ад запачаткавання кніжнай справы на свеце, а нас не перастае хваляваць тая далёкая кніга, сапраўдная, першая, з якой усё і пачалося. Бо яна і да гэтага часу захоўвае не толькі дабравесце для людзей, але і дыхае цяплом рук, што яе стварылі. Да такога неацэннага скарбу адносяцца рукапісныя кнігі. Самымі каштоўнымі і старадаўнімі рукапіснымі кнігамі на беларускай зямлі лічацца Тураўскае Евангелле XI стагоддзя, Полацкае Евангелле XII стагоддзя і Аршанскае Евангелле канца XII – пачатку XIII стагоддзя.

Сёння цяжка нават уявіць, каб чалавек суткамі, месяцамі, гадамі сляпіў вочы толькі з адной мэтай – перапісаць кнігу. Ён ператвараў трымцівы агеньчык свечкі, спадарожніцы няўтомнай працы, у непагаснае святло ведаў і прасвятлення чалавечай душы. Ды не проста перапісваў, а карпатліва і настойліва ствараў сапраўдны мастацкі шэдэўр, з усёй шчырасцю ўпрыгожваў старонкі арнаментамі і малюнкамі.

Сярод такіх старадаўніх рукапісных рарытэтаў, сагрэтых душой і рукамі добраахвотных прыхільнікаў кніжнага прыгоства, найпершым з'яўляецца Тураўскае Евангелле. Па сведчанні вучоных, гэта самая старажытная рукапісная кніга, якая была створана на беларускай зямлі.

Назва Евангелля паходзіць ад месца яго адкрыцця ў 1865 годзе – у Тураве тагачаснага Мазырскага павета. Была і яшчэ адна спадарожная акалічнасць. Да самага пачатку XVI стагоддзя Евангелле належала Тураўскай Праабражэнскай царкве. Пра прыналежнасць яго тураўчанам сведчылі і два запісы, зробленыя на старонках кнігі князем Канстанцінам Іванавічам Астрожскім.

У той час знакамітаму ў Вялікім Княстве Літоўскім княскаму роду Астрожскіх належаў і Тураў. Канстанцін Іванавіч Астрожскі (1460–1530) быў вядомым военачальнікам, здабыў перамогі больш як у 60 бітвах. Найвышэйшы гетман Княства, віленскі кашталян, трокскі ваявода (гэтыя пасады звычайна аддаваліся католікам), ён па колькасці падданых і памерах зямлі, што належала яму, лічыўся другім чалавекам у дзяржаве пасля віленскага ваяводы А.Гаштольда. Акрамя таго, князь выступаў заўзятым прыхільнікам і абаронцам праваслаўя, рэлігійным мецэнатам, шчодра падтрымліваў цэрквы, будаваў шмат новых.

У адным са сваіх укладных (даравальных) запісаў, зробленых у Тураўскім Евангеллі 2 мая 1508 года, князь Астрожскі *«з женою… княгинею Татьяною* (першая жонка Таццяна Сямёнаўна Гальшанская. – **А.Б.**) *и з сыном… князем Илиею надали есмо в Турове… церкви Божей к преображению Господа Бога и Спаса нашего Иисуса Христа (і святарам яе Мітрафану і Мацвею)… сад с пасекою и поле з сеножатьми»*, а таксама азёры і іншыя землі *«вечно и на векы непорушено»*. 10 лютага 1513 года з'явіўся другі запіс аб перадачы царкве новых угоддзяў.

Старажытны рукапісны помнік знайшоў у час археаграфічнай паездкі па беларускіх землях Мікалай Сакалоў. Натрапіў на яго выпадкова. У скрыні для вугалю валялася старадаўняя рукапісная кніга. Даследчык даўніны зразумеў, якая каштоўнасць трапіла ў рукі, і прывёз яе ў Віленскую публічную бібліятэку. Тут правялі даследаванне і высветлілі, што напісана Евангелле на пергаменце – надзвычай трывалай спецыяльна апрацаванай скуры, якая са старажытных часоў выкарыстоўвалася для пісьма. Пергамент мае невялікія дзірачкі – выдаткі апрацоўкі скуры. Захавалася ўсяго 10 аркушаў, альбо 20 старонак тэксту. Яны пераплецены ў невялікі сшытачак. Евангелле перапісана на царкоўна-славянскай мове, уставам – самым старажытным відам кірылічнага пісьма. Абрысы літар надзвычай выразныя. Ініцыялы, як завуцца павялічаныя пачатковыя літары раздзелаў, размаляваны чырвонай і сіняй фарбамі на зялёным фоне.

Памер Евангелля 20,5 на 26,5 сантыметра. На кожнай старонцы змешчана 18 радкоў. Колер чарніла каштанавы. Як і ўсе старажытныя спісы Евангелля, Тураўскае таксама адносіцца да тыднёвага апракасу. Тэкст у іх размяшчаўся ў той паслядоўнасці, як неабходна чытаць яго падчас богаслужэння.

Тураўская знаходка да гэтага часу захоўваецца ў Вільнюсе. У пачатку 60-х гадоў мінулага стагоддзя Евангелле было адрэстаўравана і апранута ў новы пераплёт.

Тураўскае Евангелле дае ўяўленне і пра стан развіцця гэтай зямлі наогул. Як сведчаць легенды, амаль 900 гадоў таму з Кіева па Дняпры і Прыпяці ў Тураў цудадзейным чынам прыплылі больш за дзесяць вялікіх каменных крыжоў. Мо гэта сталася Божым сведчаннем святасці гэтай дабрадзейнай зямлі, засцярогай яе ад непамыснасці і неспрыяння? У Тураве здаўна была шырока распаўсюджана пісьменнасць. Ёю карысталіся князі і вяльможы, яна бытавала ў манастырах.

Дзейнічала тут другая па старажытнасці праваслаўная епархія на Беларусі, існавала вучылішча. Мяркуюць, што Кірыла Тураўскі, пакуль у 1161 годзе стаў тураўскім епіскапам, жыў у манастыры, з'яўляўся настаўнікам. І невядома, не знойдзена пераканаўчых доказаў, ці займаўся ён перапісваннем кніг. Аднак добра вядома, што Кірыла Тураўскі належыць да знаных культурных і царкоўных дзеячаў, з'яўляецца майстрам аратарскай прозы, прапаведнікам і асветнікам. Ён першы на Русі «стоўпнік» – чалавек, які цалкам адасобіўся ад жыцейскай мітусні, зачыніўся ў манастырскай вежы і прысвяціў сябе малітоўнаму служэнню Богу. Там напісаў свае першыя творы – як вынік глыбокіх роздумаў над жыццём. Усяго Кірылу Тураўскаму належыць каля 70 малітваў, прытчаў, павучанняў, пропаведзяў, твораў іншых жанраў.




Факсімільнае выданне Тураўскага Евангелля.

ІХ НОРАВЫ

## Ці здарыцца нашэсце тараканаў на Кітай?

У горадзе Січан кітайскай правінцыі Сычуань знаходзіцца самая вялікая ў свеце ферма па развядзенні тараканаў, якая належыць фармацэўтычнай фірме Gooddoctor Pharmaceutical Group. Штогод ферма выпускае 28 тысяч тараканаў на адзін квадратны фут плошчы – усяго каля 6 мільярдаў тараканаў у год! Гэтыя насякомыя выкарыстоўваюцца як бялковыя дадаткі ў корм хатніх жывёл, а таксама інгрыдыенты для кітайскай фармацыі. За гады свайго існавання ферма прынесла ўладальнікам прыбытак у памеры 4,3 мільярды юаняў (684 мільёны долараў), што цалкам зразумела: экстракт тараканаў рэкламуецца як сродак папярэджвання анкалагічных захворанняў.

Але ж кожны таракан жадае жыць на волі – і гэта аб'ядноўвае іх з людзьмі. У жніўні 2013 года адбыліся самыя вялікія тараканавыя ўцёкі з фермы, якая знаходзіцца ў горадзе Дафэн правінцыі Цзянсу: за адзін раз збегла каля 1,5 мільёна насякомых. Таму існуе сапраўдная небяспека, што ўсе жыхары січуанскай тараканавай фермы калі-небудзь паспрабуюць збегчы. Гэтай праблемай займаюцца навукоўцы з Інстытута заалогіі Кітайскай Акадэміі навук у Пекіне, бо такія ўцёкі – зусім не фантастыка, напрыклад у выпадку землятрусу. Уяўляеце сабе, колькі тараканаў у гэтым выпадку апынецца ў кватэрах жыхароў таго ж Пекіна?

